Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 5. Вільня, Пятніца, 10-га кастрычніка 1924 г. Год I.

**СЯЛЯНЕ!** Памятайце, што „Сялянская Праўда“—гэта **вашая газэта**, дык вы самі павінны яе і ўтрымаць. Дзеля гэтага **акуратна шліце падпісныя грошы** і намаўляйце да гэтага другіх!

Хто ў цяжкую пару задоўжыўся, хай, сабраўшы з поля, **адашлець свой доўг!**

Падпішчыкам, якія заплоцяць зразу грошы **за тры месяцы** (да канца году), будзе **бясплатна** разасланы зборнік

***„Заходняя Беларусь“.***

## Пагоня за „ляяльнасьцяй“.

Некалькі гадоў назад, калі ў Вільню прыехаў дэлегат польскага ўраду, п. Роман, да яго зьвярнулася дэлегацыя Беларускага Нацыянальнага Камітэту, каб напомніць яму, як прадстаўніку новае ўлады ў нашым краю, аб тых абавязках, якія ўскладае на *кожную ўладу факт істнаваньня тут пераважаючае беларускае народнае масы.*

Вельмі ўцешаны гэтай візытай **п.** дэлегат пастараўся надаць ей высока-палітычны характар і заявіў дэлегатам: „Я вельмі рады, што панове стаіце на грунце ляяльных адносінаў да Польшчы“.

На гэта галава дэлегацыі тут-жа адрэзаў: „І мы былі-б вельмі радыя, калі-б беларусам пад Польшчай жылося так добра, што яны маглі-бы ляяльна адносіцца да Польскае дзяржавы“...

Пажаданьне гэтае аказалася, аднак, нязьдзейсьненым. Здаецца, наадварот, што польская ўлада ўчыніла ўсё ад яе залежачае, каб—ведама, несьвядома!—дабіцца ў беларускіх масах якраз процілеглых настрояў!

Ня гледзячы на гэта, ня гледзячы на няўстанныя закіды, робленыя беларусам, што яны — „ворагі Польшчы“ і г. п.,—мы павінны адзначыць пастаяннае імкненьне і польскага грамадзянства, і польскае ўлады да таго, каб тым ці іншым спосабам паказаць перад усенькім сьветам *беларускую ляяльнасьць.*

Ня так даўно мы былі сьведкамі спробы гэткае дэманстрацыі ляяльнасьці беларусаў у адносінах да Польшчы дарогай стварэньня „Беларуска-Польскага Таварыства“. Таварыства гэтае афіцыяльна мела зусім нявінную мэту: культурнае зблізканьне двух суседніх народаў. Але за гэтай вельмі сымпатычнай мэтай польскія ініцыятары Т-ва мелі йшчэ другую мэту—укрытую: выкарыстаць Таварыства, каб паказаць заграніцай поўную *палітычную гармонію* між польскім і беларускім грамадзянствам. Гэтая ўкрытая мэта выявілася толькі пасьля перадчасьнае сьмерці Т-ва, памершага да свайго афіцыяльнага адкрыцьця, у пісьме правадыра польскіх „дэмакратаў“, п. В. Абрамовіча, які заявіў, што, калі беларусы адважацца хаця-бы *думаць* аб здабыцьці незалежнасьці з вонкавай дапамогай, дык у палякоў з імі ня можа быць супольнага языка...

Пасьля гэтага пачалося вербаваньне розных падонкаў беларускага грамадзянства і „тоже бѣлоруссовъ“, абядналых на грунце „зялёнага стала“ ў так-званай „грамадзянскай шулерні“ і „часовай беларускай радзе“ з Валэйшамі і Паўлюкевічамі на чале. Але скандальная прафэсія прадстаўнікоў гэтых „паважаных“ арганізацыяў зьвяла да нуля цэннасьць усіх іх заяваў аб „ляяльнасьці“ беларускага грамадзянства да тых, хто ў працягу пяцёх гадоў ні на адзін мамэнт ня быў ляяльным у адносінах да беларускага народу....

І вось мы бачым цэлы рад фактаў, якія паказуюць *на жаданьне „злавіць“ на ляяльнасьці ўжо запраўдных правадыроў беларускага насяленьня ў Польшчы*, выбраных аднадушна гэтым насяленьнем дарогай агульнага, беспасярэдняга, роўнага, тайнага і прапорцыянальнага галасаваньня. Справа йдзе аб нашых пасlоў у Сойм і Сэнат.

Так, да прыкладу, карэспандэнт газэты „Kurjer Polski“ (орган польскіх паступоўцаў!), злавіўшы ў Сойме пасла Тарашкевіча і пагаварыўшы з ім аб сучасных палітычных выпадках, надрукаваў пасьля гэтую самую гутарку ў такім відзе, што п. Тарашкевіч быў прымушаны катэгарычна пратэставаць проці ўложаных у ягоныя вусны выдуманых карэспандэнтам слоў. А словы гэныя гаварылі аб... *ляяльнасьці беларусаў да Польшчы.*

Яшчэ лепш выйшла з дэлегацыяй беларускіх пасlоў да пана прэм'ера Грабскага. Нашы паслы: кс. Станкевіч і П. Мятла, ды сэнатар А. Уласаў, з даручэньня Беларускага Пасольскага Клюбу, пайшлі да п. Грабскага разгаварыцца ў *справе правядзеньня ў жыцьцё новавыданых законаў аб беларускай мове ў школе і ўрадаваньні. Больш ні аб чым гутаркі ня было.* Аб сваей візыце і аб тым, што на ёй гаварылася, *беларусы* ў польскую прэсу вестак *не давалі.* І вось назаўтрае ў-ва усіх польскіх газэтах было надрукована, што беларускія паслы заяўлялі п. Грабскаму ізноўжа аб... *сваей ляяльнасьці да Польшчы.* Вестка гэтая, як высьнілі жыдоўскія газэты („Ді Цайт“), выйшла з *поўурадовае крыніцы* (пэўне з канцэлярыі п. Грабскага), і Беларускі Пасольскі Клюб быў прымушаны афіцыяльна заявіць, што дэлегацыя аб ляяльнасьці ці неляяльнасьці ніякіх гутарак з п. Грабскім не вяла....

Што-ж гэта такое? Што гаворыць гэтая дзіўная пагоня за ляяльнасьцяй тых, каго кожын польскі ўрадовец разглядае, як „бясспрэчнага ўнутранага ворага“ Польскае дзяржавы?

Яна гаворыць, што ўрад п. Грабскага хоча дабіцца таго, каб беларускае насяленьне было ляяльным ня толькі на славах (да таго нікім ня высказаных), але і на дзеле. Але п. Грабскі няўдала падыходзіць да гэтае справы. Ляяльнасьць да дзяржавы ня родзіцца сама сабой—дзякуючы адно таму, што беларусы—хоцькі, няхоцькі,—сталіся грамадзянамі Польшчы. *Ляяльнасьць грамадзян да дзяржавы магчыма толькі там, дзе дзяржава ляяльна адносіцца да грамадзян.* І „ўлаўліваньне“ беларускіх пасlоў на „ляяльных заявах“ нічога п. Грабскаму, апрача кампраматацыі, ня дасьць, пакуль Польская дзяржава не перастане быць для беларусаў тым, чым яна ёсьць цяпер!

## Як праводзяцца законы аб мовах.

У № 85 „Dzien. Ustaw“ зьмешчана інструкцыя ўраду аб правядзеньні ў жыцьцё законаў аб мовах „меншасьцяў“ у ўрадаваньні.

Цантральная ўлада і цантральныя дзяржаўныя ўстановы, ўлады і ўрады вайсковыя, чыгункавыя, ды пошт, тэлеграфаў і тэлефонаў на ўсім прасторы Польскае дзяржавы ўрадуюць **у ўнутранай і ў вонкавай службе ў польскай мове.**

Права зварачацца да ўрадавых установаў на пісьме і на словах у роднай мове маюць, як **фізычныя** асобы, так і **юрыдычныя** (таварыствы) — апошнія ў залежнасьці ад **нацыянальнае прыналежнасьці і абыватэльства** іх сяброў і **пастановаў іх статутаў аб гэтым.**

З увагі на тое, што ні ў адным з статутаў беларускіх арганізацыяў (дый, думаем, і другіх) няма такіх пастановаў, ясна, што іх гэтага права інструкцыя зусім **пазбаўляе!**

Гэта—першае запярэчаньне пастановаў закону аб мовах, прынятага Соймам. Але ёсьць іх і болей.

Ад асоб, якія падаюць устна ці на пісьме заявы ў роднай мове, **не належыць вымагаць, як правіла, доказаў, што яны маюць польскае абыватэльства і прыналежаць да данае нацыянальнасьці.** Але, калі ўзьнімуцца паважныя **сумляваньні** адносна да аднаго ці другога, дык **разгляд заявы павінен быць прыпынены** да часу, пакуль заінтарасаваная асоба не дакажа, што адпавядае абодвым варункам.

Ну, тут дык ужо закон аб мове зусім **зводзіцца да нуля!** Перш-на-перш, каб дастаць пасьведчаньне аб абыватэльстве, трэба чакаць часта год, два і балей. Значыць, **для тых, хто ня мае на руках доказу абыватэльства, закон аб роднай мове ня пісаны:** польскія ўрадоўцы могуць з гэтае інструкцыі так карыстаць, што або прыдзецца зрачыся свайго права на падаваньне заявы ў роднай мове, або... адлажыць сваю справу на цэлыя гады!

Што-ж да нацыянальнасьці, дык беларуская прэса ня раз ужо падавала нялічаныя факты, што пры выдачы пашпартоў беларускім сялянам (асабліва каталіком), хоць-бы яны ні слова не гаварылі папольску, упісывалі „польскую нацыянальнасьць“! Бывалі нават і такія факты, што людзям без канца зацягівалі выдачу пашпарту, пакуль тыя цьвёрда заяўлялі, што яны беларусы. Калі-ж „добрыя людзі“ паціху парадзілі ім запісацца „палякамі“, дык пашпарт выдавалі ўраз-жа... Гэтак істнуюць тысячы беларускіх сялян, вучыцялёў і наагул інтэлігентаў, у якіх у пашпарце напісана „паляк“. Аўтар гэтае стацьці сам мае вайсковую кніжку, дзе, ня гледзячы на яго заяву, што ён беларус, улада ўпісала „паляк“... І ўсе гэтыя асобы, паводле інструкцыі ўраду, **воляй кожнага ўрадоўца** могуць быць **пазбаўлены права на родную мову!**

Пры здаваленьні вышэй паказаных варункаў (аб доказах абыватэльства і беларускае нацыянальнасьці), усялякія заявы на пісьме і на словах пабеларуску **павінны прыймаць** гэткія ўрадовыя ўстановы II і I інстанцыі (ведама, толькі цывільныя) ў межах **Віленшчыны, Палескага ваяводзтва і Наваградзкага:** ваяводзкія ўрады, скарбовыя ізбы, школьныя куратары, земскія ўрады, староствы, скарбовыя ўрады і касы, школьныя інспэктары, інспэктары працы і інш., а такжа самаўрадавыя ўлады і ўрады (соймікі, ваяводзкія і павятовыя выдзелы, гмінныя рады і ўрады і інш.), дый іх установы.

Урадоўцы на чыгунках, поштах, тэлеграфах і тэлефонах у тых-жа **межах** у гутарцы з публікай пры вакенцы на пошце ці ў касе на чыгунцы маюць ужываць беларускае мовы, **калі на гэта будзе патрэба.** Вось, значыцца, і тут усё будзе залежаць **ад добрае волі ўрадоўцаў:** хто з іх хацеў і ўмеў, той і бяз інструкцыі мог даваць беларусам адказы і тлумачэньні пабеларуску.

Гэтым, пакуль-што, і абмяжовываецца інструкцыя, якая, як мы бачылі, нічым фактычна **ня зьвязывае самаволі ўрадоўцаў,** каторых улада

назначае да нас з этнаграфічна-польскіх краін, i каторыя ня толькі варожа настроены ў адносінах да ўсяго беларускага, але і ня ведаюць беларускае мовы і пры найлепшай ахвоце ня могуць урадаваць пабеларуску!

Інструкцыя толькі падцьвярджае, што польскі ўрад правёў языковыя законы, выключна, дзеля заграніцы—„на вываз", але ня дзеля ўжытку ў краю. Тут, на месцы, ніякіх зьменаў ня будзе: „усё астанецца пастараму".

**Лаўрыновіч.**

## Традыцыйная „толеранцыя".

Ніхто так ня псуе заграніцай добрае славы Польшчы, як... само польскае грамадзянства!

Вось сьвежы прыклад, як гэтае грамадзянства праводзе ў жыцьце слаўную „толеранцыю", якой Польшча пышаецца перад усім сьветам.

„Gaz. Warsz." публікуе пастанову гадавога зьезду польскага купецтва Паморыя аб адносінах да жыдоў, якіх польскія купцы называюць проста „ворагамі":

„Зьезд паморскага купецтва сьцьвярджае істнаваньне вельмі грознага зьявішча ў пастаці наплыву жыдоў і кліча паморскае купецтва да салідарнае акцыі, каб перашкодзіць гэтай небясьпецы, пагражаючай польскаму стану валаданьня.

„Не належыць прадаваць ворагам зямлі, дамоў, прадпрыемстваў, таргоўлі і варштатаў пад пагрозай прысуду апініі грамадзянства, якое павінна выкінуць здрадніка з усялякіх польскіх арганізацыяў.

„Нельга аддаваць ворагам у арэнду ані кватэраў, ані таргових памяшчэньняў,—і то пад пагрозай грамадзянскага і таварыскага байкоту".

Што купец-жыд, як канкурэнт, зьяўляецца ворагам **кішані** купца-паляка, гэта зусім справядліва. Але пры чым тут польскі народ, якога польскае купецтва цяпер—без канкурэнцыі — абдзірае на Паморы, як само хоча?

Трэба адзначыць, што нават у найгоршыя часы перасьледаваньня палякоў у Прусах нямецкія гакатысты ў адносінах да польскага насяленьня так далёка не заходзілі...

Пастанова польскага купецтва на Паморы—найбольш яркае запярэчаньне заявам п. Скшыньскага ў Лізе Народаў аб „новым" курсе нацыянальнае палітыкі Польшчы: як можна гаварыць аб нацыянальнай свабодзе ў дзяржаве, дзе грамадзянства выносіць падобныя рэзалюцыі?!

## Аб чым пішуць.

### Яшчэ аб трактатах.

„Głos Narodu" ў № 228 піша аб тым, якую помач дала-бы Польшчы Ліга Народаў у прыпадку нападу з боку СССР:

Рада Лігі перш за ўсё пакліча маскоўскіх камісараў у Арбітражны Трыбунал. Саветы адкажуць, ведама, насьмешкамі і абразай, падобна да таго, як сустрэлі лагодную і вадзяністую рэзалюцыю Лігі ў справе Грузіі.

Тады Ліга прызнае Расею напасьнікам, і пакліча 50 дзяржаў, каб ужылі ў адносінах да Расеі вызначаных у арбітражнай умове санкцыяў (караў—*Р.*). Гэта значыць, што паміж Расеяй і яе суседзямі павінны быць разарваны гаспадарчыя адносіны. Аднак, мы можам быць пэўнымі, што Нямеччына гэных адносінаў ня толькі ня спыніць, хоць-бы перад тым і падпісала арбітражную ўмову, але і будзе дастаўляць Расеі аружжа і ваенныя матар'ялы. Прымаем ужо пад увагу тую оптымістычную надзею, што нямецкія войскі ці нямецкія вайсковыя арганізацыі не ўварвуцца ў Паморскі калідор або на Горны Сьлёнск, баючыся нападу Францыі. Ці Англія прышле нам войска на падмогу? Але-ж Мак-Дональд выразна заявіў, што Англія не далучыцца ні да якіх вайсковых санкцыяў. Тым менш—на карысьць Польшчы і на шкоду Расеі.... А мо' Чэхаславакія? Гэта блізу зусім выключана, як з увагі на афіцыяльнае русафільства чэхаў, так і на сілу чэскага сацыялізму і камунізму. Аўстрыйскі і чэскі камунізм будзе нават рабіць перашкоды пры перавозцы аружжа для Польшчы, як гэта было ў 1920 годзе. А Нямеччына ўжо цяпер заяўляе, што, падпісываючы арбітражную ўмову, адкіне пункт, які прымушаў бы яе да эвэнтуальнае перавозкі французскіх войск у Польшчу...

А значыцца?....

А значыцца, Ліга нам ня дасьць ніякое дапамогі.

„Nasz Przegląd" даводзе, што тэкст праекту аб гарантыях міру ў польскім перакладзе—няправільны! Згодна з французскім і англійскім тэкстам, § 19 аб ненарушальнасьці трактатаў зусім не выключае магчымасьці перагляду іх:

Сход Лігі можа ад часу да часу запрапанаваць сябрам Лігі нанова перагледзець трактаты, карыстаньне з якіх сталася ўжо немагчымым, і разглядзець міжнародавыя адносіны, далейшае трываньне каторых магло-бы стацца небясьпечным для сусьветнага міру.

У такім духу прамаўлялі ў Лізе Народаў і англічанін лёрд Пармур, і нарвэжскі дэлегат Лянге, і француз Жувэнэль, і літвін Гальванаўскас. Польска-румынскія засьцярогі аб ненарушальнасьці тэрыторыі дзяржаваў былі адкінуты на сэсіі Лігі.

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Паседжаньне палітычнага камітэту Рады Міністраў.

7/X Палітычны Камітэт Рады Міністраў разглядаў праект урадовага распараджэньня ў справе ўвязваньня закону аб роднай школе на „Крэсах".

Пасьля мін. Міклашэўскі даў справаздачу аб тым, што робіцца ў справе арганізацыі праваслаўнай царквы ў Польшчы.

### Абяцанкі праваслаўнай царкве.

З Варшавы паведамляюць, быццам, польскі ўрад праектуе нешта зрабіць—у галіне прававога палажэньня і матар'яльнага стану Прав. Царквы ў Польшчы. Мае быць створаны Багаслоўскі факультэт (праваслаўны)... ў Варшаве, маюць упарадкаваць справу захопленых цэркваў і царкоўнае маемасьці...

На жаль—ўсё гэта мае быць роблена тымі-ж чыноўніцкімі рукамі п.п. Пекарскіх і Стшалковскіх, якія дагэтуль займаліся руйнаваньнем царквы, і зусім бяз голасу беларускага і украінскага народаў, з якіх і складаецца праваслаўная царква ў Польшчы!

### Троцкі ў Варшаве.

Руспрэс наказуе, быццам, Троцкі, едучы ў падарожу па Эўропе incognito (пад чужым прозьвішчам), мае на колькі дзён спыніцца ў Варшаве.

### Пагоня за лунінецкімі партызанамі.

Пагоня за лунінецкімі партызанамі трывае дагэтуль.

Арыштаваны нейкі Васіль Ярмовіч, які, быццам, забіў у цягніку жыда Бісэра. У яго знойдзены рэчы забітага.

У в. Сянкевічах арыштаваны яшчэ 2 ўчасьнікі нападу на цягнік.

## Заграніцай.

### Літоўскі дэлегат аб адносінах з Польшчай.

Літоўскі дэлегат у Лізе Народаў, Сідзікоўскас, заявіў прадстаўнікам прэсы, што літоўская дэлегацыя адкінула ўсе спробы прадстаўнікоў балтыцкіх дзяржаў нявязаць беспасярэдні кантакт між літоўскай і польскай дэлегацыяй.

У канцы ён заявіў, што, калі Літва дастане Віленшчыну, дык усяму яе абшару будзе дадзена аўтаномія.

### 23-ці кангрэс міру ў Бэрліне.

У Бэрліне ў гмаху парляманту пачаўся міжнародавы кангрэс міру. Урачыстае паседжаньне кангрэсу адчыніў французскі сэнатар Ляфонтэн, які сказаў, што кангрэс мае мэтай сьцьвярдзіць, ці адбытая сэсія Лігі запраўды зрабіла нешта дзеля ўсталеньня міру.

Цікава, што нямецкі ўрад зусім неяк адсунуўся ад учасьця ў кангрэсе. Нават сам гаспадар дому — Старшыня Рэйхстагу прамаўляў апошні.

### Адказы Нямеччыне.

Нямецкае агенства падае, быццам, адказ французскага ўраду на нямецкі мэмарыял у справе ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў—кажа, што Францыя ня робіць ніякіх агаворак проці гэтага ўваходу і вызначэньня сталага мейсца ў Радзе Лігі, але загэта спадзяецца, што і нямецкі ўрад таксама ня будзе ставіць іншых варункаў.

Англійскі ўрад таксама згадзіўся на сталае мейсца ў Радзе Лігі для Нямеччыны, але заявіў, што гэтае пытаньне аканчальна павінна вырашыць сама Рада.

### Да рэканструкцыі нямецкага ўраду.

Нямецкі ўрад вядзе перагаворы з партыямі ў справе рэканструкцыі габінэту, жадаючы пашырыць яго парляманцкую апору.

### „Правда" аб працы Лігі Народаў.

„Правда", разглядаючы праект Лігі Народаў аб забясьпечаньні проці выбуху вайны, наказуе на яго ўтапічнасьць, нерэальнасьць.

Перадусім заміраць, узгодніць процілежныя рэальныя інтарэсы і імкненьні Англіі і Францыі нейкай „формулай", нейкім слоўным „пратаколам"—немагчыма. Ня можа Ліга, пазбаўленая ўсялякай рэальнай сілы,—спыніць пагрозу вайны і збраеньні,—ажыцьцёвіць справядлівую арганізацыю міжнародавых адносінаў пры несправядлівым ладзе наагул, сутнасьць якога —пагоня за здабыцьцём багацьця" і эксплёатацыя. За гэтымі пацыфістычнымі (міралюбнымі) формуламі трэба шукаць тэй самай барацьбы за першую ролю ў сьвеце,—у канцы канцоў, за сусьветнае пананаваньне, якая выклікала гэтую вайну. Усялякія разьемныя суды („арбітражы") — толькі новая форма сусьветнай дыктатуры мацнейшай дзяржавы, ці групы дзяржаў.

Формулюючы радавы пункт гледжаньня, „Праўда" кажа, што „радавы ўрад адкідае самую думку тасаваньня мераў ваеннай прынукі, адносна да незадаволіўшых Лігу дзяржаваў, бо гэтыя ваенныя рэпрэсіі Лігі будуць толькі новым аружжам у руках мацнейшых дзяржаваў проці слабейшых.

Радавы ўрад лічыць тэхнічна магчымым, пры сучасных гістарычных варунках, толькі прапарцыянальнае паменшаньне збраеньняў, каб палягчыць ваеннае бярэмя, якое ляжыць на народным карку.

### На румынскіх „крэсах".

„Роста" падае інфармацыі румынскіх газэтаў аб тым, што робіцца ў Бэсарабіі.

Тое, што заходня-эўрапэйская прэса падавала, як „напады бальшавіцкіх бандаў", у запраўднасьці ёсьць самастойныя сялянскія бунты, якія выкліканы белым тэрорам румынскіх уладаў, часткова — новым загадам ураду аб перадзеле зямлі—у мэтах адабраньня ад ня румынаў іх надзелаў.

Румынская газэта „Унівэрсуль" пісала, што паўстаньні сялян ахапілі абшырны раён і трывалі каля 10 дзён. Каб іх задавіць, былі кінуты значныя ваенныя сілы. У цэлым радзе месцаў адбыліся запраўдныя бітвы. У адным (паднарушаны) забіты аж 200 сялян і столькі-ж жаўнераў.

Паводле газэты „Аўрора", урадовыя войскі рабілі запраўдныя атакі на паўстанцаў, пазіцыі якіх удалося ўзяць толькі пасьля ўпорнага адпору.

Газэта „Адвэруль" лічыць, што ўсяго палягло 500 чалавек. Бунты яшчэ ня скончыліся. 4 мястэчкі зруйнованы зусім. Усе арыштаваныя сяляне аддадзены пад ваенны суд.

І вось, у той час, калі незалежныя і найпаважнейшыя румынскія газэты аблічаюць сотнямі ахвяры разрухаў, урадовая прэса цьвердзіць, што гэта — „напады 35 радавых бандытаў".

Але-ж найбольш крывавыя бітвы адбываліся якраз далёка ад радавай граніцы.

### Варункі італьянскіх лібэралаў.

На кангрэсе лібэральнай партыі ў Ліворно (Італія) прынята рэзалюцыя, у якой партыя ставіць гэткія варункі ўраду Мусоліні, калі ён хоча яе супрацоўніцтва: дзяржаўная ўлада павінна кіравацца Канстытуцыяй і вызваліцца ад дыктатуры аднэй партыі; аружнай сілай у дзяржаве павінна быць адзіная ўсенародная армія,—ніякай іншай аружнай сілы ў дзяржаве быць не павінна.

## Аб пераглядзе трактатаў.

(*Нітті аб Польшчы*).

Вядомы італьянскі палітык, былы прэм'ер, Нітті, які цяпер—прафэсарам у адным з Швайцарскіх унівэрсытэтаў, у размове з журналістам высказаўся аб гэтак гучна рэклямованай „міравой працы" Лігі Народаў.

Нітті ня верыць зусім у плады гэтай працы... Умова аб узаемнай гарантыі міру магла-б мець рэальнае значэньне толькі **пасьля рэвізіі** (перагляду і зьмены) **Трактатаў**, якія ўложаны пераможцамі—ў ап'яненьні перамогаў. Зусім справядліва караць супольнымі сіламі таго, хто нарушыць гвалтам мір, бо гэта—супольны вораг усіх. Але дзеля таго трэба, каб істнуючы мір быў **справядлівы.**

А ці-ж можна паверыць, каб Расея, Нямеччына, Вэнгрыя (і інш. пакрыўджаныя „вэрсальцамі" дзяржавы і народы) пагадзіліся з сучасным палажэньнем, створаным трактатамі?!

Лёгка сказаць: „хочам міру"!—Аднак-жа трэба паказаць яшчэ, якім шляхам і спосабам дайсьці да яго.

Ці-ж Нямеччына калі згодзіцца на бязмысны данцыгскі калідор, на немаральны падзел Г. Сьлёнску, на немагчымае палажэньне басэйну Саары?!

Нямеччына—адзіная дзяржава на сьвеце, якая падзелена на два кавалкі нейкім „калідорам". Людзі, якія ў Вэрсалю краілі, як краўцы, Эўропу, думалі сабе папросту, што ад Нямеччыны можна адрэзаць такое чыста нямецкае места, як Данцыг,— дзеля таго, што Польшчы трэба даць выхад да мора! Думалі, што Нямеччыну можна парэзаць польскім клінам, бо Польшча ня можа жыць бяз порту!

А ці-ж Вэнгрыя мае порт?

А Аўстрыя? А Чэхаславакія?

А Швайцарыя ці калі мела доступ да мора?!

„Дык вось, калі ў часе гэткага „міру" рантам Нямеччына слушна зажадае свайго Данцыга, дык ...усе сябры Лігі павінны будуць кінуцца на Нямеччыну... Ці-ж у гэткіх абставінах Амэрыка рашыцца ўвайсьці ў Лігу??

А ці-ж можна прадставіць, што ўсе народы выступяць проці Расеі (?), калі яна патрэбуе сабе Галічыну?!"

12-га кастрычніка адбудзецца **АГУЛЬНЫ СХОД**

**Беларускага Т-ва помачы пацярпеушым ад вайны**

ў памешканьні гімназіі (Вострабрамская 9) а 4 гадзіне папаўдні.

ПАРАДАК ДНЯ:

1) Справаздача Прэз. К-ту аб дзейнасьці яго за мінулы год;
2) Зьмена статуту;
3) Выбары К-ту;
4) Бягучыя справы.

Калі сход не адбудзецца 12-га кастрычніка, дык наступны будзе 17-га кастрычніка, а 4-ай гадз. ў тым-жа памешканьні, правамоцны пры ўсялякай лічбе прысутных.

Старшыня К-ту **Р. Астроўскі.**

# Крызыс ураду у Англіі.

Урад Мак-Дональда пастанавіў адкінуць абедзьве прапазіцыі, як кансэрватараў — аб бязумоўнай загане ўраду, так і лібэралаў — каб стварыць для разгляду справы парляманцкую камісію.

Як мы пісалі, справа йдзе аб звальненьне з-пад арышту генарал-пракурорам рэдактара камуністычнай часопісі—за артыкул, які заклікаў да зваленьня істнуючага ладу з аружжам у руках, абражаў караля і г. д.

Мак-Дональд рашыў, калі будзе прынята хоць адна з гэтых прапазіцыяў, патрэбаваць ад караля роспуску парляманту і вызначэньня новых выбараў.

На зьезьдзе партыі працы Мак-Дональд заявіў, што абедзьве прапазіцыі — абраза работніцкага ўраду, калі партыя працы захавае ў сваіх руках уладу яшчэ год, дык іншых партыяў ня будзе зусім. Цяпер работнікі будуць не абараняцца, але самі пяройдуць у наступленьне.

З Лёндану наказуюць, што Мак-Дональд атрымаў ад караля запэўненьне, што ў прыпадку паражэньня ўраду ў парляманце ён дасьць Мак-Дональду паўнамоцтва распусьціць парлямант і назначыць новыя выбары.

**У апошні мамэнт прыйшла вестка, што пры галасаваньні варожых Мак-Дональду прапазіцыяў прапазіцыя кансэрватараў адкінута, лібэралэў—прынята Парлямантам.**

Гэтак ураду Мак-Дональда выражана недаверые.

Парлямант ужо распушчаны, і на новых выбарах англійскі народ скажа, ці ён стаіць за ўрад работніцкае партыі, ці проці яго.

## Рэзультаты новых выбараў у швэдзкі парлямант.

З дагэтуль ведамых ужо падрахункаў 250 мандатаў разьдзяліліся так: сацыял-дэмакраты атрымалі — 104 мейсцы ў парляманце (перад тым было 93), кансэрватары—64 (было 62), лібэралы—34 (было 41), сялянскі саюз—23 (было 21), камуністы—5 (было 13).

Паражэньне панясьлі лібэралы і камуністы — на карысьць сацыялістаў і кансэрватараў.

## Урадовы крызіс у Грэцыі.

Спроба ўтварэньня коаліцыйнага (з усіх партыяў) габінэту пад прэм'ерствам павадыра рэспубліканскай партыі, Пананастазіу,—не ўдалося.

Паміж партыямі йдуць перагаворы аб рэканструкцыі папярэдняга ўраду.

## Хвароба Анатоля Франс.

Найвялікшы пісьменьнік сучаснай Францыі, Анат. Франс, паважна захварэў.

З прычыны глыбокай старасьці вялікага пісьменьніка хвароба пагражае сьмерцю.

## Хатняя вайна ў Кітаі.

З Пэкіна наказуюць, што ўрадовыя войскі на Шанхайскім фронце акружылі армію Кьяню-Су і ўзялі многа палонных і амуніцыі.

## Хатняя вайна ў Арабіі.

З Ангоры наказуюць, што турэцкі каліфат пастанавіў прасіць Англію не мяшацца ў хатнюю вайну ў Арабіі.

## Барацьба за Мэкку.

Паміж войскам Гусэйна-пашы і вогабітамі зроблена замірэньне.

## Зямлітрасеньне ў Эрзэруме.

Зямлітрасеньне ў Эрзэруме (ў Турцыі) зьніштожыла 3.800 дамоў, пашкодзіла 2.500. Ахвяраў людзьмі 2.200 чалавек.

# ХРОНІКА.

**„Беларуская“ дэлегацыя ў Варшаве.** Як нас паведамляюць, у Варшаве ўжо колькі дзён сядзіць дэлегацыя створанай п. Валэйшай „Часовай Беларускай Рады“, справядлівей—усё таго-ж картова-латошна-буфэтнага „Беларускага“ Грамадзянскага Сабраньня.

Дэлегацыя складаецца з п. Більдзюкевіча (правая рука п. Валэйшы) і д-ра Павлюкевіча з Наваградку.

Дэлегацыя мае, быццам, абгаварыць з міністрамі (!) справу перадачы ў рукі гэтай „цёплай“ кумпаніі ўсіх спраў, зьвязаных з увядзеньнем у жыцьцё новых законаў аб мовах. П. Валэйша мае „рэкамандаваць“ з боку „маральнасьці“ (на гэта ён мае добрыя „кваліфікацыі“: два прыгаворы Віленскага Акружнага Суда за падлогі і фальшаваньне грашавых дакумантаў, на якія і атрымліваў грошы з казначэйства!) і палітычнай „правамыснасьці“—ўрадоўцаў-беларусаў на становішчы нават памоцнікаў старостаў... П. Валэйша мае адчыняць урадовыя школы—пачаткавы і сярэднія... П. Валэйша мае выдаваць (а можа—й пісаць?!) вучэбнікі і іншыя беларускія кніжкі і г. д.

Дык вось дэлегацыя, быццам, стаўляе першым дамаганьнем—перадачу ў рукі валэйшаўскае „Рады“ (—Грамадзянск. Сабраньню) ўсіх тых крэдытаў, якія ўрад, быццам, на гэтыя рэчы ўжо ўставіў у новы бюджэт...

Трэба думаць, што казначэямі Рады будуць, апрача п. Валэйшы, вядомыя „спэцыялісты“ ў фінансавых справах бліжэйшыя памоцнікі п. Валэйшы: п. п. Косьцевіч і Знамяроўскі...

Дадаюць, што дэлегацыя, узяўшы з сабой 600 злотых, ужо цераз 2 дні тэлеграфавала: высылайце яшчэ і яшчэ...

**„Obcokrajowcy“ — да войска!** З Варшавы наказуюць, быццам, ваенная ўлада маніцца прымусіць чужаземцаў, маючых „карты пабыту“, але ня маючых пашпартоў чужых дзяржаў, каб адбывалі службу ў польскім войску... Тыя, што адмовяцца, зараз-жа атрымаюць заграніччныя пашпарты і будуць высланы з Польшчы бяз права павароту.

**Каму будуць патрэбны такія пастыры?** Віленская праваслаўная духоўная сэмінарыя заводзіць у сябе цалком польскія парадкі. На чале сэмінарыі стаіць цяпер Антоній, вядомы з свайго падхлебства да польскага ўраду. Навука ў сэмінарыі паступова будзе адбывацца папольску. Урад гэтую думку праводзіць цьвёрда і з упорствам („Kryn.“).

**„Вялікае праступленьне“.** „Dzien. Wilen.“ нядаўна зьмясьціў заметку з вялікім зьдзіўленьнем і абурэньнем аб тым, што ў літоўскай пачаткавай школе ў Вільні знайшлася геаграфічная карта ў... беларускай мове.

**Галадоўка ў Лукішскім вастрозе.** У віленскіх газэтах зьявілася вестка, што палітычныя вязьні на Лукішках (у Вільні) зрабілі галадоўку ў знак пратэсту проці пазбаўленьня іх прагулкі. Дамаганьне вязьняў вярнуць прагулкі здаволена.

**Пагроза жыдоўскай гміне.** Улада высяляе віленскую жыдоўскую гміну з дому, які прызнаны ўрадавым.

**Да роспуску магістрату ў Вільні.** Тутэйшыя газэты падаюць, што міністэрства ўнутр. спраў разглядае справу роспуску віленскага мястовага Магістрату і назначэньня на яго месца ўрадавага камісара.

Гэты праект падтрымліваецца групай радных з вядомым п. Студніцкім на чале.

**Да ведама падарожнічаючых.** Міністэрства скарбу афіцыяльна выясьняе, што асобы, якія выяжджаюць заграніцу з заграніччным пашпартам, могуць вывязьці з сабой да 1.000 злотых, ці на гэту суму якое-колечы іншае валюты.

Наадварот, едучы з Нямеччыны ў Польшчу, можна вязьці пры сабе ня больш за 180 рэнтавых марак, калі едзеш з пашпартам.

**Корпус пагранічнікаў едзе на „Крэсы“.** 10 гэтага месяца высланы на „Крэсы“ гатовыя ўжо атрады новай ваеннай паліцыі, якая будзе сьцерагчы граніцу. Ваяводзтвы Віленскае, Наваградзкае, Палескае і Валынскае атрымаюць свае часьці корпусу, пасьля чаго частка старой паліцыі будзе звольнена.

Польская прэса „робіць від“, што верыць, быццам, гэтая новая „ваенная паліцыя“ будзе зроблена з нейкага зусім іншага матар'ялу, — лепшага цеста, як сучасная цывільная... — Калі-б нават і так, дык хутка стане гэткай самай: гэткія ўжо „фатальныя крэсавыя варункі“!

**Напад на паліцыю.** У ноч на 2/X 3 бандыты напалі на паліцыянта Каз. Дмоўскага, які ехаў на граніцу Сьвянцянскага і Дунілавіцкага паветаў. Паліцыянт ранены ў нагу. Бандыты ўцяклі.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Пане Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць у „Сялянскай Праўдзе“ гэтых некалькі радкоў.

„Kurjer Poranny“ у № 272 (4.X.24) ў стацьці „Wśród Białorusinów“ падае нязгодную з праўдай вестку аб Віленскай Беларускай Гімназіі, цьвердзячы, што гімназія гэта атрымлівае ад ураду грашовую дапамогу.

Дзеля належнага выясьненьня справы гэтым падаю да агульнага ведама, што ані Віленская Беларуская Гімназія, ані іншая якая беларуская гімназія ад ураду не атрымлівае **ніякай** дапамогі.

Прыміце, Пане Радактар, маю да Вас пашану і паважаньне.

*Кс. А. Станкевіч.*
Старшыня Беларускай Цэнтр.
Школьнай Рады ў Вільні.

Вільня. 10-X-24 г.

# Карэспандэнцыі.

## Дамаганьне роднае школы.

(*Вёска Жыдомля, Гарадзенскага пав.*).

Калісь, чатыры гады таму назад, была ў Жыдомлі беларуская школа, але-ж польская ўлада зачыніла яе. Цяперака, калі дазволена адчыняць беларускія школы, дык сяляне заварушыліся. Быў сход, і пастанавіў адчыніць беларускую школу ў тым самым будынку, дзе месьціцца цяперака польская школа. Толькі ў аднэй нашай вёсцы Жыдомлі налічваецца 70 дзяцей-вучняў, якія сядзяць у хаце і на буй-вецер растуць, а яшчэ ёсьць дзеці з двух вёсак, якія пасылаюць дзяцей у нашую школу.

Праўда, у нас ёсьць польская школа, дзе два вучыцялі, але-ж дзяцей усяго 15 вучняў — шляхты, а нашы дзеці ня хочуць хадзіць у польскую школу, бо нічога не разумеюць.

Здаецца, усё добра, але-ж вучыцель польскай школы, Ярошэвскі, ня хоча дапусьціць, каб была беларуская школа, і робіць усякія перашкоды.

Некаторыя ў вёсцы выпісываюць беларускую газэту, дык вучыцель Ярошэвскі і сэкрэтар Жыдамлянскай гміны перахапляюць, каб мы ня ведалі аб жыцьці-быцьці беларускага народу.

1 кастрычніка ўвайшлі ў сілу законы аб правох для беларусаў, дык паглядзімо, што будзе з гэтага. Авось мо' і нашы дзеці ўжо ўцешацца, калі будзе свая школа і ўслышаць сваю родную мову.

N.

## Добра жывецца.

(*М-ка Скідаль, Горадзенскага пав.*).

У верасьні 1924 г. маладзеж м-ка Скідаль наладзіла хатнюю вечарынку. Сабралася шмат хлапцоў і дзяўчат, каб патанцаваць.

Кожнаму вядома, што ніводная вечарынка не абойдзецца без нязваных гасьцёў. Дык вось зьявіўся паліцыянт, — ды йшчэ п'яны.

Пачаў паліцыянт лаяцца і разганяць маладзеж. Зьвярнуліся да паліцыянта і папрасілі, каб ён выйшаў, але-ж ён яшчэ балей пачаў крычаць і разганяць.

Пасьля вялікага шуму ўзялі і выгналі паліцыянта за дзьверы.

Але-ж гэным ня скончылася. Праз паўгадзіны прыйшлі ўжо два паліцыянты, а затым яшчэ балей і разагналі вечарынку.

Пачалі паліцыянты радзіцца, як бы арыштаваць гэных хлапцоў і дзяўчат.

Аднаго дня хлапцы і дзяўчаты вярталіся з лесу дамоў.

Акружылі ўсіх іх паліцыянты на дарозе і давай шукаць антыпанствовай літэратуры. Пасьля наглага вобыску ўсіх арыштавалі. Арыштаваны: Чабатарэвіч, Сяўрук і інш.

Даведаўшыся аб гэтым, бацькі пайшлі на пастарунак да каманданта, каб даведацца, за што заарыштавалі. Дык паліцыя яшчэ ўзяла і пабіла нагайкамі бацькоў і прагнала.

Добра жывецца... N.

## Справаздаўчы мітынг.

(*Вёска Жухавічы, Нясьвіжскага пав.*).

5-га кастрычніка г. г. даведаўся да нас выбраньнік наш да Сойму, пасол Рагуля.

Прыезд яго зрабіў вялікае ўражаньне на народ, які даўно жадаў бачыць свайго пасла.

У гэты дзень вучыцель у школцы рабіў сход адносна таго, што бацькі дзяцей, калі яны не пашлюць іх у школу (ведама, у польскую), будуць плаціць вялікі штраф. Людзі былі абураны гэным, і жадалі свае роднае школы, на якую прыгавар і др. дакумэнты паслалі к пав. інспэктару.

І вось прыезд п. Рагулі вельмі быў на часе: пасьля прамовы пасла ў людзёў зьявіўся яшчэ большы энтузіязм да роднае мовы і да роднае школы.

Шчырае дзякуй нашаму выбраньніку за тое, што пазнаёміў нас з усім тым, што робіцца ў Сойме, і падняў у нас настрой к таму, каб кожную процізаконную абіду ня трымаць пры сябе, а пускаць туды, гдзе яе могуць **разабраць па закону.**

**Жухавец.**

## Дзень за днём.

(*Падстарыня, Косаўс. пав.*).

Слухайце, што расказваець мне Юлісь Гэмбар з вёскі Падстарыня, Косаўскага пав.!

„— Каторы ўжо год ідзе, як прыехаў я з Расеі, і дагэтуль прыходзіцца гніць у зямлянцы.—І на „тым“

